Беларуская газэта **НАША НІВА** *Вільня №3, 1994*

# Тэмпэратура Крыві



**У ЮГАСЛАВІІ** ўсё як у Беларусі Адзін быццам, народ пацярпелы ад розных імпэрый, адна, быццам, мова, і — розныя веравызнаньні: праваслаўныя, каталікі... Але у нас няма грамадзянскай вайны, а ў Югаславіі ёсьць Чаму? Гэтай тэме прысьвечаныя артыкул Энтані Сміта «Паўставаньне нацыі» гутарка з харвацкім прафэсарам у рэдакцыі «НН», ліст Бісэркі Райчыч з Сэрбіі ды іншыя матэрыялы

**ЮРЫ ГУМЯНЮК:**

Маркіз дэ Сад шпацыраваў па навакольлі
распавядаў кабетам пра пінгвінаў
Ну а жанчыны трызьнілі Купальлем,
як прэзыдэнты плачуць ля мартэнаў

**ІДЭЯ МЁРТВАГА ДОМУ.** Артыкул пра тое, як беларуская ідэя зь ідэі творчасьці паступова ператварылася ў знак руціны Пачаткі гэтага ператварэньня — у пачатку нашага стагодзьдзя

**ІЎЛІН ЎО.** Страшнае апавяданьне «Маленькая пагулянка містэра Лавдэя»

**КНІЖНЫ РЫНАК У ІСЛЯНДЫІ.** У беларускай газэце такі тэкст адразу ператвараецца у антыўтопію Трэба толькі ўявіць сабе празьмерны рост маштабаў нацыянальнаи кніжнай прадукцыі і народ, які зачытваецца біяграфічнымі раманамі пра Вольгу Корбут ці Мікалая Дзямянцея

**ВЯЛІКДЗЕНЬ.** Рэдакцыя «Нашаи Нівы» віншуе усіх сваіх супрацоунікаў, фундатараў і чытачоў са сьвятам радасьці и вясны

# МЛОСЬЦІ

*Кароткая аповесьць пра гідкасьць*

Адам Глёбус

Гідка Ну, калі хочаш, тады раскажу, як пачуцьцё гідлівасьці перапаўняла мяне

На летняй практыцы пасьля другога курсу. Мы жылі ў вёсцы Латыголь Елі ў школьнай сталоўцы, а ўвечары куплялі малако — выдатная вячэра — малако з лустаю хлеба. Дзяўчаты з нашае групы таксама прыносілі сабе слоікі з малаком Выйшаўшы на ганак, я ўбачыў як з прыступак у траву скокнула жабка І зьявілася думка укінуць жабку у слоік з малаком Так і зрабіў, укінуў жабку ў поўны трохлітровы слоік і ўжо накрываў яго капронавай накрыўкай, як убачыў на паверхні лупавокі тварык. Я вылавіў жабку, прывязаў ёй ніткай да нагі камяньчык, каб гадаўка не ўсплывала, і апусьціў у малако. І ў думках не было, што яна захлынецца, выпрастае свае тонкія лапкі. Заставалася чакаць. Першай вярнулася з вуліцы Галя Наліла малака поўную шклянку і спакойна выпіла. Другая — Жана — пасьпела выпіць толькі паўшклянкі, бо калі Галя налівала сабе чарговую шклянку, у малацэ паказалася здохлая жабка. Жана папярхнулася, малако палілося праз нос Асабіста ў мяне жабка ў малацэ, нават нежывая, не выклікае агіды Мусіць, таму я адзін мог піць з таго слоіка

На той самай практыцы было яшчэ адно здарэньне, якое выклікала амаль ва ўсіх пачуцьцё гідкасьці. А галоўным пэрсанажам выступіў маленькі кудлаценькі сабака. Я так і ня ведаю, ці меў ён якога гаспадара. Мусіць, меў, бо ў вёсках меней валачашчых сабак, чым у мястэчках і гарадах. Гэта на гарадзкіх і местачковых сьметніках сабачая гайня — зусім ня дзіва.

Але што я усё пра сабачае, калі паабяцаў пра млосьці...

Сабака колеру вільготнага пяску пачаў штовечар прыходзіць пад школьны ганак і выпрошваць чаго паесьці. Дзяўчаты кідалі яму скарынкі Ён чвякаў, ускідваў галаву, каўтаў хлеб, а потым пачынаў зноў віляць закручаным у абаранак хвастом Вострая лісіная пыска зіркала чорна-фіялетавымі вочкамі лісьліва й хітра. Сабачка меў і сапраўды нейкую кемлівасьць, бо праз колькі дзён ён ужо сам ведаў расклад нашага практыканцкага жыцьця й як з-пад зямлі вырастаў перад намі, калі мы выходзілі са сталоўкі. Хутка прайшла першая радасьць, як і цікаўнасьць да закіданьня ў ружовую ікластую пашчу кавалкаў хлеба. Карміць сабаку зрабілася абавязкам Кінулі каля ганку што-небудзь і пайшлі. Спраў хапала Усім трэба было тэрмінова скончыць партрэт цёмнай, як зямля, бабулі. Партрэты маляваліся ў старой на панадворку мэтраў трыста ад школы. Мы ціхамірна пэцкалі палотны, калі пачулі голас Алеся Агафончыка. Ён бег ад школы и нешта крычаў, слоў не разабраць, але па ўзмахах рук мы зразумелі, што трэба дапамагаць Хто кінуў пэндзаль на палітру, а хто й з пэндзлем у руцэ, пабеглі насустрач. Задыханы Алесь пачаў, зьбіваючыся, тлумачыць: нейкі гад укінуў сабачку ў прыбіральню, сабака яшчэ плавае але вось-вось захлынецца й загіне. Дзяўчаты адмовіліся ратаваць улюбёнца, хлопцы таксама ня выказалі вялікага жаданьня дапамагаць Алесю У бок школы пайшлі мы ўтрох Алесь Агафончык, Алесь Ласевіч і я «Я б яго выцягнуў але ён баіцца — уцякае Я руку ў дзірку апушчу, а ён у другі канец ямы плыве», — расказваў па дарозе Агафончык, і ягоныя вочы плавалі за тоўстымі павелічальнымі шкельцамі акуляраў. У Агафончыка была піянэрская звычка глядзець субяседніку ў вочы таму ён ішоў на паўкрока наперадзе, не раўнуючы, як той сабака... «Ну й смурод!», — Алесь Ласевіч спыніўся мэтраў за дваццаць ад пабеленага будана прыбіральні. І сапраўды цяжкі дух хвалямі разыходзіўся ад доўгай шара-срабрыстай прыбіральні, на сьцяне якой чарнелі два вялізныя павукі літараў «М» ды «Ж»

«Ён там яшчэ плавае...» — Агафончык першы заишоў у смуродлівую хвалю Па звычцы мы памкнуліся ў мужчынскае аддзяленьне Чатыры цёмныя адтуліны заваражылі мяне. Агафончык апусьціўся над адной і прыняў такую позу, нібыта ў спартовай залі зьбіраўся адціскацца ад падлогі. Агафончык — чалавек спартовы, і ўсе практыкаваньні рабіў нібыта дзеля ўзору, дзеля прыкладу — рабі як я раблю Перааддольваючы млосьць, я зазірнуў у адтуліну Па над алейнымі пералівамі густой жыжкі ўзвышалася адно сабачая галава «Не дастанем адсюль, трэба ў жаночае аддзяленьне йсьці» На слушную прапанову Ласевіча заструменіўся гук падзеньня сікуноў. «Хто гэта там?» — Агафончык ускочыў і ўтаропіўся на дашчаную перагародку, што сымбалізавала наяўнасьць процілеглых полаў. «Я!» Мы ўтрох паглядзелі на дошкі, з-за якіх прыляцела такое самаўпэўненае, ну проста экзыстэнцыяльнае «Я» «Што за я? Хто там?» Вялікія вочы Алеся Ласевіча выказвалі непаразуменьне. «Я — Ларыса Данількевіч! А ты, Лось, калі прыйшоў у прыбіральню, дык рабі сваю справу ціха й не перашкаджай іншым» Тыраду суправаджаў шорах апранахаў. «Дурань!» Агафончык, Ласевіч і я выскачылі на двор З жаночага аддзяленьня выплыла чырвоная Ларыса, дзябёлая дзявуля. «Вар'яты Я ўсё раскажу Кіму Толаравічу!» «Там сабака захлынаецца», — Агафончык наставіў на Ларысу лінзы

*Працяг на старонцы 2*



# Дзёньнік прыватнага чалавека



ВІЛЬНЯ У адносінах беларусаў зь Вільняй за апошнія 50 гадоў адбылася мэтамарфоза. Яшчэ 50 гадоў таму Вільня спараджала беларушчыну. Людзі тут атрымлівалі натхненьне дзеля свае чыннасьці Гэта была лесьвіца ў неба, вакно ў сусьвет, брама Высокай Культуры Гэта было месца любові, мядовага месяцу беларускае мовы, нацыянальнае сьведамасьці, чалавечнасьці ў беларускім абліччы Дагэтуль кожны, хто пыяжджае ў Вільню, адчувае магутны пыліў жаданьняў Нідзе так натхнёна не працавалі архітэктары, палітыкі, сьвятары, настаўнікі Нідзе не напісана столькі клясычных беларускіх вяршаў... Цяпер усё наадварот Мы вышукваем тут не натхненьня, а фактаў-зачэпак нацыянальнае прыналежнасьці Гэты будынак, гэты пляц, гэты крыж зьвязаны зь беларускай культурай! Вось доказы! Доказы замест натхненьня.. Шчасьце шлюбу, каханьня й любові зьмянілася судоваю цяжбай. Зацята даказваючы прыналежнасьць сабе (падабенства да сябе) таго ці іншага прадмету, мы тым самым зацята сьцьвярджаем свой зь Вільняй развод

МЭВА МАРОН Ірляндзкі карэспандэнт «Нашай Нівы» публікуе свае тэксты ці ня ў кожным чарговым нумары й паступова робіцца фактарам беларускае літаратуры Зьява зусім унікальная Бо гэта эсэістыка экстракласы, таго жанру, да якога наша літаратура яшчэ не дажыла Яна не перажыла яшчэ мяжу інфармацыйнае перасычанасьці ведамі пра самую сябе Груба кажучы, у нас яшчэ магчымы чалавек, які *чытае ўсё* Але колькасьць літаратуры множыцца, літаратура ўліваецца сваім прытокам у магутнае рэчышча эўрапейскага й сусьветнага кантэксту, што й стварае перадумовы для экстракляснай рэфлексіі. Пасярод гэтага кніжнага мора той, хто хоча прасачыць ягоныя гальфстрымы з гальфстрымікамі, ужо можа разь- лічваць толькі на самога сябе, свае здольнасьці й сваю творчую энэргію

ПРЭЗЫДЭНТ Прэзыдэнцкія выбары на Беларусі будуць незвычайныя й дзіўныя Матывы ўсіх удзельнікаў моцна адрозьніваюцца ад тых, што самі сабой зразумелыя ў іншым сьвеце Беларускія палітыкі разьлічваюць на «сознательность» і чакаюць ад народу менавіта «сознательности» «Вспомните, как мы жили!» — кажуць камуністы «Будзьце патрыётамі!» — кажуць незалежнікі. Народ жа прапускае гэта міма вушэй і глядзіць, каторы з палітыкаў сымпатычнейшы Іншых парамэтраў проста не йснуе Між тым, як на добры лад, я мушу галасаваць за таго, за каго мне выгадна Мне, а ня нейкім мітычным радзімам ці адзінствам-братэрствам Напрыклад, за каго выгадна галасаваць Рэдакцыі «НН» і тон культурнай плыні, якую яна прадстаўляе, — таго яна й падтрымае І ніякай «сознательности»

ЮГАСЛАВІЯ Ня ведаю, ці Беларусь яшчэ не дасьпела да міжканфэсійнай грамадзянскай вайны ці справа й сапраўды ў тэмпэратуры крыві — у гарачым подыху арыенту, у тым, што Расея — ня Турцыя, і кроў яе, пакуль дабяжыць ад «азиатского подбрюшья» да «паўночнае Пальміры», астывае.. Падзел на веравызнаньні ў Югаславіі стаў дэструктыўным падзелам адзінага этнічнага цела. Гэтак нейкае касьмічнае цела пасьля выбуху разламваецца на некалькі меншых, і камэнтаваць можна па-рознаму ці нешта згінула назаўсёды, ці — нарадзілася пяць новых плянэт... Урэшце, хто можа сказаць, якая была зададзенасьць?. Пабітых людзей шкада, і сябе шкада І добра, калі без вайны Між тым, і ў нашай гісторыі здараліся моманты, калі адзінае цела нацыі выпрабоўвау на трываласьць міжканфэсійны раз лом Мы засталіся цэлай плянэтай Але й разлом нікуды ня зьнік



*Здымак Алены Адамчык*

# МЛОСЬЦІ

*Працяг са старонкі 1*

акуляраў «Ну, і хай сабе захлынасцца». — Ларысіны пальцы з абгрызенымі пазногцямі аправілі клятчастую спадніцу. «Пайшлі выцягнем!» — я накіраваўся да жаночага аддзяленьня І чаму ў жаночых прыбіральнях заўсёды чысьцей? Мусіць, з за таго, што слабейшая палова чалавецтва ўсе патрэбы робіць седзячы Сабачая галава з прыціснутымі да шыі вушамі цяпер пагойдвалася пад мужчынскай паловаю Доўгая рука Ласевіча схапіла сабаку за поўсьць Сабака нават не завішчаў На двары ён стаяў у траве і калаціўся Ягоны некалі закручаны хвост зьвісаў з худога азадку роўненькім пруткам Агафончык прынёс вядро вады і вывернуў на перапалоханага сабаку Сабака страпянуўся прысеў на ўсе чатыры лапы, падскочыў і кінуўся уцякаць Ён больш не прыходзіў на ганак і не выпрошваў хлеба

А праз тыдзень, зусім выпадкова, я даведаўся, што кінуў сабаку ў прыбіральню вясковы вар'ят Юрачка, клышаногі перарастак, зь якім нават малыя дзеці не хацелі гуляць. Юрачка хадзіў па Латыголі ў вялікай картовай кепцы і ўсьміхаўся ўсім сустрэчным, агаляючы ружовыя, нібыта плястмасавыя дзясны. Крыўдаваць на такога грэх. Хоць я, вядома, азьліўся

Васемнаццаць гадоў — такі ўзрост, калі ледзь ня ўсе праявы жыцьця выклікаюць у душы гідкасьць Юнацтва скончылася, цынізм і максымалізм адыйшлі ў мінулае, а ім на зьмену прыйшло непрыняцьце існага, і ўсё навокал зрабілася агідным Нават каханьне стала іншым, біялягічным З плятанічных, мройных, летуценных адносінаў яно трансфармавалася ў матэрыялістычнае вывучэньне й дасьледаваньне аб'екта Такім аб'ектам стала для мяне Жана Шук — высокая, паўнацелая, белая дзяўчына Яна была белая ўся і паўсюль, нават смочкі на поўных грудзях былі ружовыя, сьветлыя, амаль белыя. Мы бралі эцюднікі, кардонкі ды йшлі нібыта пісаць краявіды Мы нават разыходзіліся ад школьнага цэмэнтовага ганку ў розныя бакі, а потым сустракаліся дзе-небудзь на ўзьлеску ці каля рэчкі Мы шукалі зацішнае месца, кідалі ў траву мастакоўскі рыштунак і, цалуючыся, распраналі адно аднаго Мы ня ведалі нават самых простых рэчаў Кожнае набліжэньне, дотык, ласка зьнітоўваліся зь пераадольваньнямі сораму, скутасьці, уяўных маральных нормаў. Пацалункі... Бясконцыя, ненатольныя, балючыя... Яна ўкусіла мяне за ключыцу Тыдзень я саромеўся распранацца перад хлопцамі

Гадзінамі мы ляжалі распранутыя побач... Пакуль не пачынаўся дождж ці не цямнела, ці не надыходзіў час бегчы палуднаваць Мы разглядалі адно аднаго так, нібыта адкрывалі таямніцу сусьвету І ў той дзень мы распрануліся й ляжалі у жыце, на зямлі, і я выпадкова патрапіў у яе Яна раскінула рукі, выгнулася ўсім сваім доўгім целам насустрач майму целу й закрычала Крык разьляцеўся на ўсё поле и пад самае белае неба А я перапалохаўся, спалохаўся й зьдзівіўся, убачыўшы, якое ў яе ружовае паднябеньне Такое ж ружовае, як дзясны вар'ята Юрачкі, што хацеў утапіць у прыбіральні сабаку. Нехта крычыць?! Пайшлі паглядзім! Ай, пэўна ж, дзеўка з хлопцам забаўляюцца Увушшу яшчэ стаяў крык, і праз яго выплылі галасы вясковых жанчын. Мы апрануліся, стоячы на каленях, саромеючыся ўстаць і сустрэць позіркі чужых, варожых нам людзей

Жана не кахала мяне, яна кахала Алеся Ласевіча Зь ім яна гуляла па вёсцы Латыголь доўгімі цёплымі вечарамі. Яны трымалі адно аднаго за руку, гэтак, як некалі й я трымаў за руку Вольгу Пакроўскую Жана, як і Вольга мне, расказала Алесю пра ўсё, што здарылася на жытнёвым полі. І Алесь прыйшоў у школу, я чытаў, лежачы на ложку, і ён папрасіў пайсьці на вуліцу й пагаварыць... Мы стаялі каля прыбіральні. «Я кахаю яе, і яна мяне кахае. Нашто ты нам перашкаджаеш? Паабяцай, што *гэтага* болей ня будзе!» Тады я першы раз у жыцьці паабяцаў, што *гэтага* больш ня будзе, і зразумеў, як лёгка паабяцаць, і ўсе застаюцца задаволеныя Мне давадзілася шмат разоў абяцаць, што *гэтага* ці *таго* больш не паўторыцца А яно паўтаралася, множылася, і я перастаў сур'ёзна ставіцца да сваіх і чужых абяцаньняў. Ну, чаму я павінен адмаўляць сабе й Жане ў цялеснай любові? Чаму дваім трэба слухаць аднаго? І мы ня

# КНІЖНЫ РЫНАК У ІСЛЯНДЫІ

Хальдоўр Гудмундсон

**Дзякуючы стараньням і дапамозе нашага Сталага Аўтара з Эўрапейскага Крайняга Захаду, адбыўся кантакт «НН» з блізкім ей паводле духу й зьместу валійскім выданьнем — двухмесячным часапісам PLANET, што выходзіць у Абэрыстўіце, Валія. Трымаючыся дарагіх нашаму сэрцу прынцыпаў рацыянальна-касмапалітычнага нацыяналізму, прапануем адну з публікацыяў часапіса. Спадзяемся, не апошні раз.**

«Празьмерны рост кніжнай прадукцыі стаўся прычынаю сур'ёзнага непакою тут, у Ісляндыі».

Тыя, хто піша пра культуру, часам засмучаюцца, калі ім здаецца, што яна выходзіць з-пад кантролю, калі яны бачаць, што нейкі яе аспэкт квітнее больш, чым належала б дзеля спакою й стабільнасьці грамадзтва Пададзенае вышэй выказваньне рэдактара аднаго зь вядучых культурных часапісаў свайго часу ў Ісляндыі — прыклад такой міжвольнай рэакцыі з боку кіраўнікоў культуры, і яго ня варта было б цытаваць, калі б яно не было напісанае ў 1925 годзе Калі празьмерны рост кніжнага рынку быў прычынай непакою тады, дык той рэдактар мусіць падзякаваць сваёй шчасьлівай зорцы, што ён не жыве сёньня, калі колькасьць афіцыйна зарэгістраваных выдавецтваў — а значыць, без уліку прыватна выдрукаваных выданьняў — пераваліла за пяцьдзесят, а сьпіс сяброў Саюзу Пісьменьнікаў Ісляндыі распачаў ужо трэцюю сотню

І аднак сеньня рэдка можна было б пачуць галасы накшталт зацытаванага вышэй. Бурлівую дзейнасьцю на ісляндзкім кніжным рынку запалоханыя галоўным чынам за межнікі Як і ўсё астатняе ў ісляндзкім жыцьці, гэтая дзейнасьць мае свае значныя ўзьлёты й падзеньні, яна поўная неасьцярожнае амбітнасьці, яна выяўляе адначасна слабую здольнасьць да выжываньня й асалоду пладавітасьці, што мяжуе з вар'яцтвам — і ў дадатак да ўсяго залежыць ад цэнаў на рыбу на замежных рынках

Неяк я прабіраўся праз залы неабдымнага Франкфурцкага Кніжнага Кірмашу зь вялізнаю кнігай пра птушак Ісляндыі, на 300 старонак, у чатырох колерах — сапраўднае шыкоўнае выданьне — калі да мяне падыйшоў дацкі калега й запытаўся, колькі грошай уклаў у гэтую кнігу Ісляндзкі ўрад Пачуўшы, што ўрад ня даў ні шэлегу, ён пакачаў галавой: лухта, ніхто не паверыць, што такое магчыма ў цывілізаванай краіне з доўгай традыцыяй кнігадрукаваньня — аднак гэта дакладна характарызуе ісляндзкую сытуацыю

І ўсё ж, ці кніжны рынак у Ісляндыі й сапраўды такі вялікі? Праўда, што ісляндцы амаль ва ўсім прызвычаіліся біць сусьветныя рэкорды, калі браць пад увагу колькасьць насельніцтва, але гэта, магчыма, больш сьведчыць пра маленькасьць краіны, чым пра дасягненьні яе жыхароў. Праўда, што ў Эўропе ня знойдзецца такога асобна ўзятага гораду з 250 тысячамі жыхароў, які мог бы пахваліцца такім аб'ёмам кніжнай прадукцыі, як у Ісляндыі, але такія гарады не складаюць асобнае моўнае прасторы або незалежных дзяржаваў. Менавіта гэты просты факт, а ня тое, што ісляндцы больш таленавітыя або большыя чытачы за іншыя народы, вызначае адмысловае становішча ісляндзкага кніжнага рынку

Наколькі вялікі гэты рынак? Мы прызвычаіліся лічыць, што ў Ісляндыі штогоду выходзіць каля 1000 новых кніг. Паводле апошняе даступнае мне статыстыкі, з 1986 і 1987 гадоў, гэта недалёка ад праўды Сярэдні паказьнік за гэтыя гады — 1250 кніг і брашураў (зь якіх кнігі складаюць тры чвэрці), 1000 зь якіх выйшлі першым выданьнем. Гэтыя лічбы ўлучаюць усё — ад арыгінальных літаратурных твораў да спэцыялізаваных буклетаў для прафсаюзных арганізацыяў Крыху больш за сотню складалі дзіцячыя кнігі, 50 — школьныя падручнікі. Як бы там ні было, гэта вельмі значная колькасьць публікацыяў, прапарцыянальна большая, чым у любой суседняй краіне

Мы напэўна не памылімся, калі скажам, што ў Ісляндыі штогод прадаецца мільён асобнікаў новых кніг, у грубым падліку чатыры кнігі на чалавека. Улічыўшы ўсё гэтае, можна сьцьвярджаць што сёньня ня так ужо й кепска быць выдаўцом або аўтарам у Ісляндыі і што нашы замежныя калегі часам глядзяць на нас з зайздрасьцю ўваччу

Гэта што да памераў рынку Але чым асаблівым вылучаецца ісляндзкі кніжны рынак? Найперш, ён сапраўды неверагодна малады й якраз пачаў набываць свае абрысы, калі былі напісаныя словы, што цытаваліся на пачатку гэтага артыкулу Кнігадрукаваньне ў больш-менш істотных маштабах пачалося тут даволі позна — першы ісляндзкі раман выйшаў з друку ў 1850 годзе, а другога — павольнага працягу першага — давялося чакаць яшчэ дваццаць гадоў На пачатку дваццатага стагодзьдзя найбольш уплывовыя ісляндзкія пэрыёдыкі ўсё яшчэ выдаваліся ў Капэнхагэне й дасылаліся ў Ісляндыю марскім шляхам, аднак пасьля ўсе пачало мяняцца, і кнігадрукаваньне пачало разьвівацца паралельна з ростам клясы буржуазіі й павышэньнем узроўню агульнае адукацыі У першыя дзесяцігодзьдзі гэтага стагодзьдзя былі закладзеныя першыя мясцовыя рыбныя кампаніі, што паспрыяла поступу адукацыі, у 1911 годзе, прыкладам быў заснаваны Ісляндзкі Ўнівэрсытэт Здабытая ў 1918 годзе сувэрэннасьць прынесла з сабою палітычную незалежнасьць, а Дваццатыя сталіся часам вялікага розруху ў ісляндзкім культурным — і разам з тым літаратурным — жыцьці

Якраз у тыя часы па вуліцах Рэйк'явіка самавіта пахаджаў першы чалавек, які зрабіў сабе прафэсію зь пісаньня кніг, які жыў з прыбыткаў ад іхнага продажу і зь нерэгулярных дзяржаўных датацыяў Гэты зялёны маладзён часта фарсіў у даўгім плашчы й шыракаполым капелюшы а часам нават з панаватым кійком і лярнэткай Праз трыццаць гадоў гэты чалавек, Хальдоўр Лахснэс, атрымае Нобэлеўскую прэмію ў літаратуры

Ад таго часу на працягу шасьцідзесяці гадоў кнігавыдавецкая справа ў Ісляндыі разьвівалася няспынна й інтэнсыўна так што сёньня краіна мае, калі ўзяць пад увагу колькасьць насельніцтва, тыпова заходні выдавецкі рынак. Яго адносная маладосьць надалей дае сябе адчуць, як з добрага, гэтак і з кепскага боку. Адмоўнае выяўляецца ў слабасьці сыстэматычных мэханізмаў і доўгатэрміновага планаваньня; станоўчае — у ступені адкрытасьці рынку да аднаўленьня, у тым, як лёгка ў ім заняць сваё месца й стаць «каралём на адзін дзень»

Другая важная адметнасьць ісляндзкага кніжнага рынку тлумачыць чаму, хоць ісляндцы купляюць больш кніг, чым людзі ў іншых краінах, так і застаецца невядомым, што яны зь імі робяць — бо наўрад ці яны чытаюць больш за іншыя народы Проста рэч у тым, што ўжо доўгі час кнігі ў Ісляндыі — найпапулярнейшы калядны падарунак Як і іншыя народы, што жывуць там, дзе дні ўзімку кароткія, ісляндцы любяць гуляць у Калядных Дзядоў, і нават самы нялюбы й нязносны сваяк заўсёды атрымае свой падарунак Традыцыйнаю азнакаю каляднае шчодрасьці даўно сталася дараваньне кніг Гэта дапамагае растлумачыць адмысловасьць рынку, а таксама тое, чаму ісляндцы — да самага надаўнага часу — не задавальняюцца кішэннымі выданьнямі ды ўвогуле глядзяць на танныя кнігі зь недаверам Дзеля гэтае прычыны нават пераклады трылераў сшываюцца, укладаюцца ў дарагую кардонную вокладку з залатымі літарамі на сьпінцы й забясьпечваюцца супэрвокладкай. У выніку гэтага яны робяцца ў чатыры разы даражэйшыя, чым у Вялікабрытаніі — але яны пакуюцца ў калядныя падарункі

Цяжка дакладна вызначыць месца якое займаюць Каляды ў кніжным рынку ў цэлым, аднак можна з пэўнасьцю сьцьвярджаць, што яны адыгрываюць вырашальную ролю ў продажы арыгінальнай і перакладной прозы, папулярна-пазнавальнай літаратуры й дзіцячых кніг. Тры чвэрці кніг у гэтых катэгорыях выдаюцца ў лістападзе й сьнежні, і нехта нават аднойчы падлічыў, што 7 % ад усіх рэалізаваных за год у краіне кніг агульнага попыту былі прададзеныя ў дзень Сьв Торлака 23 сьнежня, апошні гандлёвы дзень перад Калядамі

Гэта, вядома ж, стварае пэўныя цяжкасьці для выдаўцоў, якія мусяць цярпець розныя выдаткі праз увесь год і атрымваць прыбытак у апошнія два месяцы Думаецца, што большасьць выдавецтваў зь цяжкасьцю працуе ў такіх умовах, і сапраўды, галоўная праблема, што стаіць перад ісляндзкімі выдаўцамі, — як знайсьці сродкі для фінансаваньня буйных доўгатэрміновых праектаў

Трэцяя адметнасьць ісляндзкага кніжнага рынку зьвязаная з густамі чытачоў, якія найбольш аддаюць перавагу жыцьцяпісам сваіх землякоў На працягу больш чым дзесяці гадоў ва ўсіх сьпісах папулярнасьці ў Ісляндыі пануюць біяграфіі, і таго выдаўца, які з ходу ня можа адказаць на пытаньне «Чыю біяграфію вы зьбіраецеся выдаваць сёлета?», сапраўды чакаюць змрочныя пэрспэктывы

Найбуйнейшую катэгорыю кніг, што трапляюць на шырокі рынак, складае, ведама ж, проза Калі яшчэ раз зьвярнуцца да згаданай раней статыстыкі, за кожны з 1986 і 1987 гадоў выйшла каля 200 раманаў. Зь іх менш за дваццаць былі ісляндзкія, а рэшта — больш за 90% — пераклады замежнае прозы З другога боку, у кожным з гэтых гадоў выйшла ў сярэднім 50 біяграфіяў, зь якіх толькі 4 былі перакладамі. Ісляндцы амаль не цікавяцца біяграфіямі сусьветных славутасьцяў, папулярных на сусьветным рынку. Нават найбольшыя бэстсэлеры ў гэтай катэгорыі, як правіла, не перакладзеныя на ісляндзкую мову Ісляндцаў значна болей цікавяць жыцьцяпісы іх землякоў, нават тых, хто не набыў сабе вялікай славы й ня мог бы пахваліцца выдатнымі дасягненьнямі. Тым ня менш, гэтыя творы зь нейкае прычыны кранаюць нас больш за іншыя; гэта тое жыцьцё, якое мы ведаем, а вельмі часта гэта й тыя людзі, якіх мы ведаем, і таму калядная кніжная пара часам можа ператварацца ў сьвята сустрэчаў з старымі знаёмымі

Ведама ж, некаторыя напісаныя ў Ісляндыі біяграфіі — выдатныя літаратурныя творы асабліва аўтабіяграфіі, аднак разам з тым біяграфічная гарачка часам дае й некаторыя непажаданыя вынікі Так, сумна бачыць, як кніга інтэрвію, складзеная за шэсьць тыдняў пасрэдным журналістам, перамагае ў вайне передкаляднага продажу выдатны раман, які пісаўся тры гады Аднак нельга спадзявацца, каб ісляндзкі кніжны рынак у дадатак да ўсяго астатняга быў яшчэ й справядлівы З другога боку, ад таго часу, як Хальдоўр Лахснэс гуляў па вуліцах Рэйк'явіка, колькасьць прафэсійных пісьменьнікаў значна вырасла Тых, хто зрабіў сабе кар'еру зь пісаньня бэлетрыстыкі й жыве цалкам за кошт ганарараў і ўрадавых стыпэндыяў, налічваецца каля трыццаці. Гэтую лічбу можна падвоіць, калі ўлучыць сюды тых, для каго пісаньне складае галоўны занятак, але хто час ад часу вымушаны шукаць іншага заробку на сваё ўтрыманьне Сюды можна дадаць аўтараў школьных падручнікаў і папулярна пазнавальнай літаратуры, а таксама шырокае кола тых, хто піша кнігі ў свой вольны час Аднак нягледзячы на ўсе магчымыя складанасьці, я ня думаю, што ў сьвеце знойдзецца шмат месцаў, дзе б можна было так лёгка надрукаваць сваю кнігу, як у Ісляндыі Нават калі не ўдалося б нічога іншага, заўсёды можна самому аплаціць друк а пасьля самому й разьнесьці сваю кнігу па кнігарнях, якія гандлююць бэлетрыстыкай

З усяго, што я адзначыў, зусім відавочна, што выдавецкая справа ў Ісляндыі цалкам падпарадкоўваецца рынкавым законам Яна зусім не падтрымваецца ўрадам і нават ня мае з гэтае крыніцы ніякіх пазыкаў Горш таго, доўгі час яна цярпела ад значна вышэйшых, чым у іншых эўрапейскіх краінах, падаткаў — падатак ад продажу складаў 24%. 1 верасьня 1990 году адбылася гістарычная падзея, калі падатак ад продажу быў скасаваны для кніг *на ісляндзкай мове*, такім чынам продажны кошт кнігі скараціўся на пятую частку Гэта была вялікая перамога ісляндзкіх выдаўцоў і пісьменьнікаў у іх змаганьні за лепшыя ўмовы йснаваньня

З другога боку, урад падтрымвае пісьменьнікаў, падобна да таго, як гэта робіцца ў іншых паўночных краінах: пісьменьнікі могуць зьвярнуцца па дапамогу ў Фонд Пісьменьніцкіх Прэміяў, грошы на які выдзяляюцца ўрадам і распараджаецца якім адмысловы камітэт які абіраецца сярод кандыдатаў выстаўленых Саюзам Пісьменьнікаў Гэтая сыстэма была прынятая ў 1977 годзе пасьля доўгіх зацятых спрэчак над старой сыстэмай прэміяў, якія найчасьцей выліваліся ў палітычныя кампаніі. Прафэсійны пісьменьнік звычайна можа разьлічваць штогод на некалькі месяцаў стыпэндыі з гэтага фонду максымальна на поўгады

Адзіныя грошы, на паступленьне якіх могуць спадзявацца выдаўцы — так званы Фонд Перакладаў, які падтрымвае пераклады на ісляндзкую мову выдатных твораў замежнай літаратуры Гэты фонд невялікі, тым ня менш ён паспрыяў выданьню твораў сусьветнай літаратуры ў ісляндзкіх перакладах

Ва ўсім астатнім ісляндзкія выдаўцы мусяць клапаціцца аб сабе самі, і гэта, напэўна, добра — хоць бы толькі з тае прычыны, што ў іншым выпадку памеры кніжнага рынку сапраўды б сталіся прычынаю сур'ёзнага непакою, як гэтага баяўся рэдактар, цытаваны на пачатку артыкулу Аднак яшчэ важнейшаю прычынаю ёсьць тое, што літаратурная культура, нягледзячы ні на што, займае ў гэтай краіне надзвычай унікальнае становішча Ісляндцы ня маюць сваёй філязофскай традыцыі, аднак маюць велізарную традыцыю апавядальніцтва Мы ня маем вялікай архітэктурнай гісторыі, затое можам пахваліцца цудоўнай гісторыяй літаратуры Літаратура — проста неад'емная частка нашага нацыянальнага вобразу І таму мы мусім стварыць адпаведныя ўмовы для разьвіцьця літаратурнае культуры й дазволіць ёй самой стаяць на нагах Калі б яна пачала патрабаваць для свайго йснаваньня большае, чым цяпер, дапамогі, тады для нашага народу сапраўды настала б змрочная пара

Пераклад з ангельскае ВКZ



# Іван Радоеў

## ПЯСЧЫНКІ

• • •

Юда хутка пацалаваў Ісуса
І ўзяў трыццаць срэбнікаў
пад самым носам у Пётры.

• • •

І ў Гітлера, і ў Сталіна былі вусы,
але ў Гітлера былі меншыя.

• • •

Будзь аптымістам!
Заўседы, калі бачыш тапельца,
веруй, што ён купаецца!

• • •

Наша краіна маленькая, Божа!
Як нам пракарміць столькі герояў!

• • •

Народ храбры,
але людзі баязьлівыя.

• • •

Ніколі не сядай паміж Юдам і
Хрыстом!
Пацалуюць па памылцы!

• • •

Ньютон
Яблык.
Гравітацыя.
Слава чарвяку!

• • •

Пралетарыят страціў кайданы,
але інтэлігенцыя іх знайшла

• • •

Адна справа бясьпечная дзяржава,
іншая справа — Дзяржаўная бяспека.



Здымак Алены Адамчык

• • •

У целахоўнікаў выхадны —
у дзень пахаваньня

## ЧЫСТАЯ СПРАВА

Чорныя машыны
Чорныя касьцюмы
Чорная ікра.
Чорныя сьпісы
Очи черные

## ЭВАЛЮЦЫЯ ПАЭЗІІ

Першасная,
лірычная,
касьмічная,
грашовая,
заграмічная,
безасобавая,
клясычная.

## СПРАЖЭНЬНЕ

Сьмяяліся
Сьмяюцца.
Будуць сьмяяцца.
Мы плакалі.
Плачам.
Будзем плакаць.

З балгарскай пераклала
Венета Георгіева-Казарава

# Маленькая пагулянка містэра Лаўдэя

Іўлін Ўо

1

— Ты ўбачыш, што бацька амаль не зьмяніўся, — сказала лэдзі Моўпінг, калі машына заехала ў браму павятовай вар'ятні

— Ён носіць форму? — спыталася Анджэла.

— Не, дарагая, вядома ж не Зь ім тут вельмі добра абыходзяцца.

Анджэла ўпершыню адведвала бацьку — яна сама захацела гэта зрабіць.

Дзесяць гадоў прайшло з таго непагоднага летняга дня, калі забралі лорда Моўпінга, дня, ад якога ў яе засталіся цьмяныя, але горкія ўспаміны Вось як усё адбылося У той дзень лэдзі Моўпінг мелася ладзіць штогадовы прыём на вольным паветры Надвор'е было цудоўнае, але з прыездам першых гасьцей неба зацягнулі хмары і ўзьняўся шквальны вецер Госьці кінуліся ў дом Абваліўся шацёр Абрус узьвіўся ўгару й павіснуў на гольлі араўкарыі. Усчалася мітусьня зь пераносам падушак і крэслаў Праз нейкі час зноў засьвяціла сонца, і госьці пачалі асьцярожна выходзіць на мокры лужок Але зноў наляцеў шквал, пасьля чаго дваццаць хвілін зьзяла сонца І так паўтаралася шмат разоў А шостай гадзіне лорд Моўпінг паспрабаваў скончыць жыцьцё самагубствам Гэта была кульмінацыя таго жахлівага дня

Лорд Моўпінг штогод пагражаў самагубствам напярэдадні традыцыйнага прыёму, але ў той дзень ён зьдзейсьніў сваю пагрозу Ён павесіўся ў аранжэрэі на сваіх шлейках Суседзі, што хаваліся там ад дажджу, знайшлі яго счарнелага, паставілі на ногі, і праз гадзіну па яго прыехаў фургон З тае пары лэдзі Моўпінг зрэдку наведвала свайго мужа Звычайна доўга яна там не заседжвалася й вярталася якраз да гарбаты, нічога не распавядаючы

Шмат хто з суседзяў быў схільны крытыкаваць прытулак лорда Моўпінга Аднак лорд ня быў звычайны хворы Ён жыў у асобным крыле вар'ятні, спэцыяльна прызначаным для багатых хворых Яны мелі права на ўцеху пэўных сваіх прыхамацяў Напрыклад, ім дазвалялі выбіраць вопратку (некаторыя ў гэтым давалі волю сваім дзівацтвам), курыць найдаражэйшыя цыгары й ладзіць вечарыны для сваіх прыяцеляў-вар'ятаў на ўгодкі прызнаньня іх хворымі

Але гэта была далёка ня самая дарагая ўстанова Бескампрамісны адрас «Шпіталь для псыхічна хворых», прастаўлены на паштовай паперы й нават вышыты на ўніформе пэрсаналу, не выклікаў радасных пачуцьцяў Калі-нікалі сяброўкі далікатна нагадвалі лэдзі Моўпінг пра йснаваньне прыватных лякарняў на беразе мора, пра «дасьведчаных лекараў з усімі неабходнымі ўмовамі для лекаваньня нэрваў і больш цяжкіх выпадкаў» Але яна не надавала вялікай увагі гэтым парадам Яна адказвала сваім сяброўкам, што калі яе сын стане паўналетнім, то ён зможа зрабіць усё, што палічыць патрэбным, але пакуль што яна ня мае вялікага жаданьня мяняць свой рэжым эканоміі. Яна лічыла, што муж здрадзіў ёй якраз у той момант, калі яна чакала ад яго адданай падтрымкі і што жывецца яму ў вар'ятні лепей, чым ён заслужыў

Некалькі самотных постацяў у шэрым снoўдалі па парку

— Гэта хворыя найніжэйшае клясы, — заўважыла лэдзі Моўпінг — Для людзей накшталт твайго бацькі ёсьць нейкія ўтульны садок. Летась я дастала для яго колькі саджанцаў

Машына праехала ўздоўж суцэльнага фасаду з жоўтае цэглы і спынілася каля прыватнага ўваходу Доктар прыняў іх у пакоі для наведнікаў, прызначаным якраз для гэткіх сустрэчаў Адзінае акно было надзейна абароненае мэталёвымі прутамі й аплеценае дротам Каміна там не было, і калі Анджэла паспрабавала перасунуць сваё крэсла далей ад радыятара, дык адчула, што яно прымацаванае да пад логі.

— Лорд Моўпінг гатовы з вамі сустрэцца, — сказаў доктар

— Як ён чуецца?

— О, вельмі добра. Я б нават сказаў цудоўна Пару дзён таму ён быў прастудзіўся, але цяпер ён у выдатнай форме. Ён шмат піша.

У гэты момант яны пачулі шорганьне нечых ног па калідоры Высокі бурклівы голас, што, як здагадалася Анджэла, належаў яе бацьку, сказаў; «Я ня маю часу Скажыце ім, каб прыйшлі пазьней» Другі, лагаднейшы голас зь лёгкім вясковым акцэнтам адказаў «Хадзеце Гэта чыста афіцыйная аўдыенцыя Вы можаце заставацца там столькі, калі захочаце»

Потым дзьверы расчыніліся (на іх не было ні замка, ні засаўкі), і лорд Моўпінг увайшоў у пакой Усьлед за ім зьявіўся старэнькі сівы дзядок, твар якога сьвяціўся дабрынёй

— Гэта містэр Лаўдэй, памочнік лорда Моўпінга.

— Сакратар, — запярэчыў лорд. Ён падыйшоў, падскокваючы, да жонкі й паціснуў ёй руку

— Гэта Анджэла Ты памятаеш Анджэлу?

— Не, я б не сказаў Чаго яна хоча?

— Мы проста прыйшлі цябе адведаць

— Вы для гэтага выбралі надзвычай непрыдатны час. Я вельмі заняты Вы ўжо надрукавалі той ліст да Папы, Лаўдэй?

— Не, ваша сьветласьць. Калі вы памятаеце, вы прасілі мяне знайсьці спачатку лічбы наконт рыбнага промыслу на Ньюфаўндлэндзе

— Сапраўды Тым лепей, бо я думаю, што трэба будзе перарабіць увесь ліст Надта шмат новай інфармацыі прыйшло пасьля абеду Надта шмат Ты бачыш, дарагая, я страшэнна заняты Ён перавёў свой мітусьлівы, хітраваты позірк на Анджэлу — Я мяркую, вы да мяне завіталі наконт Дуная Баюся, вам давядзецца падыйсьці да мяне трохі пазьней. Скажыце ім, што ўсё будзе ў парадку, у поўным парадку, але ў мяне не было часу, каб сур'ёзна заняцца гэтай справай Перадайце ім гэта

— Добра, тата

— Дый наогул, — капрызьліва дадаў лорд Моўпінг, — гэта другарадная справа Перадусім трэба разабрацца з Эльбаю, Амазонкай і Тыграм Праўда, Лаўдэй?.. Ох, ужо мне гэты Дунай Мярзотная рачулка. Ну, мушу бегчы Дзякуй, што зайшлі. Я б вам дапамог, але самі бачыце, колькі ў мяне праблем Напішыце мне пра гэта Вось

Сказаўшы гэта, ён выйшаў з пакою

— Бачыце, — сказаў доктар, — ён у цудоўнай форме набірае вагу, выдатна есьць і сьпіць. Фактычна яго здароўе ў норме

Дзьверы зноў прычыніліся вярнуўся містэр Лаўдэй

— Прабачце, што перапыняю, сэр, але я баюся, што маладая лэдзі будзе засмучаная тым, што яго сьветласьць не пазнаў яе Вы не павінны наракаць на яго, міс Наступным разам ён будзе вельмі рады вас убачыць Сёньня ён не ў гуморы, бо завалены працай Ведаеце, сэр, увесь гэты тыдзень я дапамагаў у бібліятэцы і ня змог надрукаваць усе дакумэнты яго сьветласьці Ён заблытаўся ў картатэцы Вось і ўсё Ён не хацеў вас пакрыўдзіць.

— Які добры чалавек, — сказала Анджэла, калі містэр Лаўдэй вярнуўся да свайго падапечнага

— Так. Ня ведаю, што б мы рабілі безь яго Усе яго любяць. і пэрсанал, і пацыенты

— Я добра яго памятаю. Дзе вы толькі бераце такіх добрых санітараў? — ска-

Працяг на старонцы 14

# ГАЦЬ

Анджэй Вархал

— Наступны! — прахрыпеў стары

— Можа я? — нясьмела азваўся невысокі худы мужчына Ён стаяў далёка ад пачатку чаргі й баяўся, што старому хопіць тых, якія стаялі перад ім

— Вы? — засьмяяўся стары — Дык вас жа зьнясе

— Адыйду далей, добра скокну й напэўна затрымаюся.

— А, скачыце, — згадзіўся стары — Будзеце замест жвіру

Невысокі мужчына пабег уверх па плыні ракі й з высокага берагу кінуўся ўніз галавой.

— Наступны! — крыкнуў стары.

Цяпер падыйшла чарга высокага хлопца. Ён узяў разгон і скокнуў на жывот.

— Во, во, — сказаў стары, — такіх нам і трэба Яшчэ крыху, і гаць будзе гатовая

— Можна было б кожнаму даць мяшок зь пяском альбо вялікі камень, — азваўся хтосьці з натоўпу

— Хто гэта сказаў? — запытаўся стары, углядаючыся ў натоўп У мертвай цішы нехта падняў руку.

— Вы цямiце?! — крыкнуў стары

— Я закончыў аддзяленьне гацяў.

— Мы хочам скакаць без камянёў, — захвалявалася чарга

— Дык жа з каменем хутчэй пойдзеш на дно, — спрабаваў пераконваць дыплёмнік.

— Ня хочам нічыёй дапамогі, — адказала чарга. — Дый негуманна скакаць з каменем.

— Застанецеся тут, пакуль ня высьветлім, — перарваў дыскусію стары — Наступны!

На чале чаргі цяпер стаяў спалоханы мужчына

— Ну, давай, — падганяў яго стары

— Аднак мне нельга скакаць, — прамармытаў ён нясьмела — Лекар забараніў.

— Можаце ўвайсьці ў раку й крочыць па дне

— Дык мяне ж зьнясе. Калі я раблю больш крок левай нагой, мяне заўсёды зносіць управа Магчыма, мяне можна скіраваць у адміністрацыю?

— Мы змагаемся супроць разьдзьмутых штатаў, — захваляваўся стары — Скачыце. Раз, два і пайшоў. Найлепшы сродак

— Гэтага яшчэ не хапала. З кішэняў усе павысыпаецца!

— Вы што, баіцеся?!

— Я?! Баюся?! — абурыўся хворы. — Я нічога не баюся Я магу нават два разы.

Ён разагнаўся й скокнуў.

— Наступны! — крыкнуў стары

Наперад пачаў прабірацца малады чалавек Яго не хацелі прапусьціць, аднак у яго ў руцэ была нейкая паперка

— Ну, што ў вас? — запытаўся стары

— Я хацеў бы за Вацакам Ён мой сябрук

— Дыхніце.

— Навошта?

— Мера перасьцярогі Скакаў тут адзін. Ледзь усю рыбу не атруціў...

— Але ж я павінен скокнуць! — адчайна ўсклікнуў малады чалавек — Не дарэмна ж вучыўся!

— Ну, добра, — сказаў стары Толькі каб у апошні раз

Малады чалавек разагнаўся й скокнуў З вады паявіліся бурбалкі. Хутка паказалася галава і, нарэшце, захлiпаючыся, зьнікла назаўсёды

З польскай пераклаў Уладзіслаў Струміла



*Малюнак Яўгена Лугавога*

# Маленькая пагулянка містэра Лаўдэя

*Працяг са старонкі 13*

зала лэдзі Моўпінг — Недасьведчаныя людзі гавораць столькі глупстваў пра вар'ятні

— Але містэр Лаўдэй не санітар, — сказаў доктар

— Вы хочаце сказаць, што ён таксама касамозгі? — запыталася Анджэла

— Ён пацыент, — паправіў яе доктар — Даволі цікавы выпадак Жыве тут ужо трыццаць пяць гадоў

— Але ж ён зусім нармальны, — сказала Анджэла.

— Так, выглядае на тое, — пагадзіўся доктар, — і апошнія дваццаць гадоў мы ставімся да яго як да нармальнага. Немагчыма ўявіць шпіталь безь яго. Вядома, ён не належыць да групы прыватных пацыентаў, але мы дазваляем яму свабодна зь імі кантактаваць Ён цудоўна гуляе ў більярд, паказвае на канцэртах розныя штукарствы, направўляе іхныя грамафоны, прыслужвае ім, дапамагае разьвязваць крыжаванкі й займацца ўсялякімі... э-э.. хобі Мы дазваляем ім даваць містэру Лаўдэю трошкі грошай за паслугі, і ён, мабыць, за ўсе гэтыя гады ашчадзіў кругленькую суму Ён знаходзіць агульную мову нават з самымі неспакойнымі зь іх Ён проста бясцэнны чалавек для нашай установы

— Добра, але чаму ён трапіў да вас?

— Ну, гэта вельмі сумная гісторыя Калі ён быў яшчэ малады, ён забіў незнаёмую маладзіцу — зваліў яе з ровара й прыдушыў Пасьля гэтага ён адразу ж здаўся, і з таго часу ён у нас

— Але ж цяпер ён, відаць, ужо бясьпечны Чаму яго не выпускаюць?

— Ведаеце, калі б нехта быў у гэтым зацікаўлены, ён бы даўно быў на свабодзе Але ў яго няма іншых крэўных апрача зводнай сястры, што жыве ў Плімуце Даўней яна наведвала яго, але вось ужо некалькі гадоў яна не прыяжджае Ён цалкам задаволены сваім жыцьцём тут, і можаце быць пэўныя, што мы ня маем намеру рабіць захады дзеля яго вызваленьня Ён занадта карысны для нас

— Але гэта несправядліва, — сказала Анджэла

— Зірніце на свайго бацьку, — не згадзіўся доктар — Што б ён рабіў без Лаўдэя?

— Усё адно гэта несправядліва

2

Пасьля наведваньня шпіталя Анджэла адчувала сябе прыгнечана

— Страшна падумаць, што нехта можа правесьці ў вар'ятні ўсё сваё жыцьцё

— Ён спрабаваў павесіцца ў аранжэрэі, — стрымана запярэчыла лэдзі Моўпінг, — перад носам у Чэстэр-Марцінаў

— Я ня маю на ўвазе тату Я пра містэра Лаўдэя.

— А хто гэта? Я яго ня ведаю

— Ведаеш Ну, той псых, якога прыставілі да таты

— А, сакратар твайго бацькі Вельмі прыстойны чалавек Ён цудоўна выконвае сваю працу

Анджэла часова адклала абмеркаваньне гэтае тэмы й вярнулася да яе на другі дзень падчас абеду

— Мам, а што трэба зрабіць, каб вызваліць чалавека з псыхушкі?

— З псыхушкі? Божа мой, я спадзяюся, ты не зьбіраесься паскорыць вяртаньне свайго бацькі *сюды*[1]

— Не, не Я пра містэра Лаўдэя

— Анджэла, цяпер я бачу, што няможна было ўчора браць цябе з сабой Ты занадта ўражлівая

Адразу пасьля абеду дзяўчына схавалася ў бібліятэцы, дзе ўзялася старанна вывучаць законы аб вар'яцтве

Пэўны час Анджэла не размаўляла з маці наконт гэтае праблемы Але праз два тыдні трэба было адвезьці ў шпіталь колькі фазанаў бацька ладзіў вечарыну, прысьвечаную адзінаццатым угодкам прызнаньня яго вар'ятам Анджэла зь незразумелай настойлівасьцю папрасіла маці дазволіць ёй завезьці прадукты Лэдзі Моўпінг была занятая іншымі справамі й ня ўгледзела ў гэтым нічога падазронага

Анджэла прыехала ў шпіталь на сваім невялікім аўтамабілі і, пасьля разгрузкі дзічыны, папрасіла паклікаць містэра Лаўдэя У гэты момант стары якраз рабіў карону для аднаго са сваіх прыяцеляў, які меўся быць памазаны на імпэратара Бразіліі, але, тым ня менш, ён ласкава згадзіўся пагаварыць зь ёю Яны пагаманілі трохі пра здароўе й настрой лорда Моўпінга, а потым Анджэла мімаходзь запыталася

— Вам ніколі не хацелася выбрацца адсюль?

Містэр Лаўдэй паглядзеў на яе сваімі пяшчотнымі блакітна-шэрымі вачыма й сказаў

— Я прывык да такога жыцьця, міс Я адчуваю сымпатыю да гэтых нябогаў і думаю, што некаторыя зь іх адчуваюць прыхільнасьць да мяне Прынамсі, хто-ніхто засумаваў бы, калі б я зьехаў адсюль

— Але ці марыце вы калі-небудзь пра тое, каб зноў апынуцца на волі?

— Вядома, міс, я пра гэта мару мару ці ня ўвесь час.

— Што б вы зрабілі, калі б вам удалося выбрацца са шпіталя? Мусіць, ёсьць нешта такое, што вам вельмі хацелася б зрабіць

Стары неспакойна заварушыўся

— Ведаеце, міс. Мабыць, гэта прагучыць няўдзячна, але мне б вельмі хацелася схадзіць на кароткую пагулянку, адзін разочак, пакуль я не зрабіўся зусім стары Я мяркую, у нас ва ўсіх ёсьць свае таемныя жаданьні Вось і я таксама хацеў бы зрабіць адну рэч. Не пытайцеся якую Гэта не забярэ шмат часу Але я адчуваю, што зрабіўшы гэта, я мог бы зь лёгкім сэрцам сысьці на вечны спакой Мая душа была б задаволеная, і я б прысьвяціў рэшту свайго жыцьця гэтым бедным хворым людзям

Калі Анджэла вярталася дамоў, у яе ўваччу былі сьлёзы «Ён пойдзе на сваю маленькую пагулянку», — думала яна

3

З гэтага дня ў жыцьці Анджэлы зьявілася новая мэта Дзяўчына выконвала свае хатнія абавязкі зь нейкім летуценным выглядам, зь незнаёмай, стрыманай далікатнасьцю, што вельмі бянтэжыла лэдзі Моўпінг

— Дзіця, відаць, закахалася. Не давядзі Бог, каб у таго нехлямяжага хлопца Эгбэртсонаў

Анджэла цэлымі днямі сядзела ў бібліятэцы, дапякала пытаньнямі кожнага госьця, які меў хоць нейкае дачыненьне да мэдыцыны або юрыспрудэнцыі, дэманстравала сваю прыхільнасьць старому сэру Родэрыку Лэйн-Фоскоўту, што быў сябрам парляманту ад іх акругі Словы

# ОСКАР МІЛАШ У КІТАІ

*(замест крыжаванкі)*

Хэ Лю быў студэнтам псыхасаматычнае мэдыцыны ў Цюрыху, дзе «Джойс і Музіль, суседзі, ніколі не сустрэліся» Ён вярнуўся ў Кітай у 1989, пакінуўшы верш Трыстана Цара прыклееным да свайго ровара ў якасьці разьвітаньня

Ягоныя вершы й пераклады былі сабраныя (Carcanet, Manchester, 1991) Джонам Пэкам, які сам паступіў у Інстытут Юнга, напісаўшы колькі добрых вершаў у 70 х

Пэк заўважае ў сваёй прадмове, што «абнаўленьнем, якое ён [Хэ Лю] найбольш цаніў у зўрапей скай паэзіі XX стагодзьдзя, .. была спроба стварэньня новае хрысьціянскае мэтафізыкі ў позьніх вершах у прозе Оскара Мілаша... аднак Хэ Лю ведаў, што яны ляжаць далёка за межамі перакладальнага абсягу яго народу Гэты эліксір ня вытрывае пераліваньня ў іншую бутэльку, накрэмзаў ён побач зь вершам 81 у Les Arcanes...: Тут, у гэтай скрыньцы з прыладзьдзем, О Кароль работнікаў, ты знойдзеш крыж, скіпэтар і карону сьвету Аднак я мушу зноў сказаць табе, як стары Кароль асьлеп»

Не забываючыся пра папярэджаньне, укладальнік выбірае пераклады Хэ Лю такіх паэтаў як матэматык-малярмэанец Іон Барбу, Мандэльштам у Італіі, Сэлян у Асызе і Баброўскі, што марыць пра Сарматыю (ён «знайшоў у некалькіх простых словах згубленую краіну») раньні Мілаш «Учора, дзесяць гадоў таму, сёньня, праз месяц / — страшныя словы, штампы, але ці не ўсё роўна / Пішы, засьні або памры — мусіш уцячы ад сваёй абрыдлай сутнасьці / так або йначай »

Гэта падобна на непасрэдны пераклад, аднак некаторыя вершы ранейшых паэтаў крыху падноўленыя, як «Плач Мокрай Вясною» Лі Хоў (791—817, за 1100 гадоў да Багдановіча!): «Як здолеў Цара / выскаляючыся пераехаць на Белым Асьле / праз гэтыя сьпічастыя вяршыні? // Ірляндзец Джэймс ляжыць цяпер / шмат гадоў у сваёй уяўнай грабніцы, / куча сьмярдзючых костак. // А першасьвятар Цвінг-Лі / мае інкруставаную дамавіну з чорнага ружадрэву / Што за марнаваньне абалёнаў» (Абалёнавыя ракавіны — крыніца пэрлямутру )

Сярод арыгінальных вершаў сустракаюцца прыклады «перакладзізмаў», як прыкладам «Нават у дні сарокі / калі пяро ляціць міргаючы / і лёгкі ветрык сьцішць шматлікія крылы — / нават тады голас чарапахі мосьціць даўгую дарогу» або [Я недзе згубіў] «мокрае сьвятло пад грыбамі, гук / патокаў глыбока пад дашчаным мастом, / празрыстасьць / крыла, што якраз прамінула і / бліснула перад пачаткам», тым часам як іншыя грунтуюцца на архаічных формах кітайскіх іерогліфаў, інтэрпрэтаваных Бэрнхардам Карлгрэнам

Але Хэ Лю найбольш прыдатны для цытаваньня ў «Тузіне Тузінаў Вершаў, Злучаных Адвольным Парадкам», зь ягоным матывам (узятым з аднаго з «23 вершаў пра коней» Лі Хоў?) «Я паіў каня з паглыбленьняў у Сьцяне» (заўвага пра іншую сьцяну, пазначаную як «Маёнтак Брэхта» належыць, пэўна, Пэку, а не Хэ Лю), у некаторых зь іх гаворыцца пра менш модных выгнаньнікаў

Уга Фаскола ўцёк ад Буонапартэ / каб жыць з куранятамі / на задвор'і плябаніі / у пратэстанцкім Хотынгене / «Прышлі мне майго Дантэ» (Дантэ рыфмуецца з Дзантэ, адкуль паходзіць Фаскола) Фаскола ўцёк зь Цюрыху ў Лёндан / дзе ён купіў дом з садам / але адмовіўся выкладаць італьянскую мову / шляхцянкам «Прышлі грошай, / у гэтай краіне бедн насьць лічаць за грэх»

Гэтыя 144 паэмы — толькі малая частка ўсёй кнігі, у якой роўна гэтулькі ж поўных старонак, гэта, а таксама далёка закінутая сетка намёкаў тлумачыць, чаму гэтае выданьне патанула бязь сьледу ў брытанскай культуры, амаль не прыцягнуўшы нічыёй увагі Аднак я не магу стрымацца, каб не працытаваць яшчэ пару кавалкаў з тузіну тузінаў

Артэмідор і Юн Чы / су-працоўнікі аднае раніцы, / з Сынгам і чайкай, на якую ён глядзеў / праз доўгую раніцу на Аране / спрабуючы загнаць гольфавы мячык на скалах

(Артэмідор — сучасьнік Марка Аўрэлія, які напісаў «Тлумачэньне сноў»)

«Прастора — ня тое, што яны кажуць, / апроч таго, ёсьць яшчэ й le mouvement...» / Оскар Мілаш / мінае малельны перазвон каровіных званкоў / сярод туманаў у горах Рыгі

Вальзэр Леніну / на Шпігельгасэ «А вы таксама любіце / гэты Glarner Birnbrot?»

Вальзэр — гэта Робэрт Вальзэр, аўтар кніг «Кляйст у Туне» і «Прагулка» (не на кожны густ, аднак смачны кавалак!) Ягоны верш «Сьнег» прапушчаны, бо ягоныя (пасьмяротныя) ахоўнікі сказалі Хэ Лю, што гэты твор неперакладальны За ім (або не за ім) ідзе верш Хайдэгера («этычна спрэчнага» філёзафа, якога можна лічыць героем за яго працу аб Лао Цзы), пазьней у страху спалены Маёнткам Хайдэгера.

Верш, які пачынаўся «Азёрнае срэбра / рассыпаецца на цёмных берагох...», быў пра Райхенаў, дзе Валяфрыд Страбон, блізкі сучасьнік Лі Хоў, у заснаваным ірляндцамі манастыры пісаў вершы пра садоўніцтва: «Дзе быў схаваны шпік, цяпер гадуецца дрэва, / кветкі ў цэўцы — бясспрэчна добры знак»

Тым часам у Францыі апошні вялікі ірляндзкі тэоляг Джон Шкот Эрыўгена, «згорбіўшыся ў воску сваёй цэлі», пісаў, што «Кожная йстота зноў вернецца ў цень, гэта значыць / да Бога, як зорка побач зь сьвітальным сонцам / Цемра сьвятлейшая за нашае зьзяньне»

Цяпер ясна, што я мела на ўвазе, гаворачы пра далёка закінутую сетку?! Паедзем далей свабодным ходам і скончым яшчэ адным кітайскім паэтам, што робіць наезды на Захад, які быў знаёмы з вучаніцай Гурджыева Кэтрын Мэнсфілд і перакладаў для Тагора. «Хаваючыся ад залевы ў кэмбрыджскай кнігарні / і п'яны ад Годвін, Шэлі, Хэмілтана, Кавура, / Сю Чжымо вяртаецца да Пэйтэра» (Пэўна, Аляксандар Хэмілтан, а не ірляндзкі вынаходнік кватэрніёнаў, Пэк, крыху па-Паўндаўску, не дае тлумачэньняў ) «Сю ляціць на ровары праз Кэмбрыджскія балоты ў захад сонца / каб працягнуць яго»

М М



«псыхіятар», «адвакат», «дзяржаўны чыноўнік» вабілі цяпер яе так, як некалі імёны кінаактораў і прафэсійных барцоў Яна ўпарта змагалася за дасягненьне сваёй мэты і, пад канец паляўнічага сэзону, дамаглася свайго Містэр Лавдэй атрымаў свабоду.

Хоць доктар і ня меў вялікае ахвоты выпускаць старога, але ж і не праціўіўся Сэр Родэрык напісаў у Міністэрства ўнутраных спраў Былі падпісаныя неабходныя паперы, і, нарэшце, надыйшоў дзень, калі містэр Лавдэй разьвітаўся з домам, у якім правёў столькі доўгіх і карысных гадоў

З гэтай урачыстай нагоды была арганізаваная невялікая цырымонія Анджэла й сэр Родэрык сядзелі поруч зь лекарамі на сцэне, абсталяванай у спортзале Перад сцэнай былі сабраныя ўсе, каго лічылі дастаткова ўстойлівымі, каб вытрымаць гэткае ўзрушэньне

Лорд Моўпінг сказаў колькі добрых слоў пра містэра Лавдэя й падараваў яму ад імя багатых вар'ятаў залаты партабак. Тыя, што ўважалі сяба за імпэратараў, засыпалі яго ардэнамі й ганаровымі тытуламі. Санітары адшкадавалі яму срэбны гадзіньнік Шмат хто зь бедных пацыентаў, назіраючы цырымонію, ціха плакаў

Доктар выступіў з прамовай

— Дарагі Лавдэй, — сказаў ён, — памятайце, што мы зычым вам толькі дабра Нітка, што нас зьвязвае, ніколі не абарвецца Мы вашыя даўжнікі, і час толькі абвострыць гэтае пачуцьцё Калі вы раптам адчуеце стому ад жыцьця там, на свабодзе, мы заўсёды будзем рады прыняць вас назад Вашая пасада застанецца вакантная

Тузін ці болей расчуленых псыхаў подскакам праводзілі яго да выхаду Жалезная брама адчынілася — і містэр Лавдэй апынуўся на свабодзе Ягоную маленькую пакоўню ўжо адправілі на вакзал, бо ён вырашыў прайсьціся пешшу Стары нікому не сказаў пра свае пляны, але грошай у яго было нямала, і ўсе думалі, што перад тым, як наведаць сваю зводную сястру ў Плімуце, ён паедзе павесяліцца ў Лёндан

Усе былі страшэнна зьдзіўленыя, калі праз дзьве гадзіны пасьля разьвітаньня ён вярнуўся. Яго твар асьвятляла загадкавая, ласкавая ўсьмешка, нібы ён згадваў нешта прыемнае

— Я вярнуўся, — паведаміў ён доктару — Думаю, што цяпер назаўсёды

— Але чаму такі кароткі адпачынак, Лавдэй? Вы ж, пэўна, не пасьпелі й павесяліцца!

— О не, сэр Дзякую вам, сэр Я *выдатна* павесяліўся Усе гэтыя гады я абяцаў сабе адно маленькае задавальненьне Яно было вельмі кароткае, сэр, але *надзвычай* прыемнае Цяпер я без усялякага шкадаваньня вазьмуся за сваю працу

Трохі пазьней за паўмілі ад брамы вар'ятні, на дарозе быў знойдзены стары жаночы ровар Паблізу, у канаве, ляжала цела задушанай маладзіцы Напэўна, едучы дадому на гарбату, яна мела няшчасьце напаткаць містэра Лавдэя, які гуляў па дарозе, думаючы, што рабіць са свабодай

Пераклаў з ангельскай Віктар Лук'янаў

## ШТО ПІШУЦЬ?

Шаноўная Рэдакцыя!

Дзякуй вам за той вялікі кавалак жыцьця, які мае назву «Наша Ніва». Першы нумар за 1994 год узрушыў і мяне ўзяцца за самапіску

Перш за ўсе — доўгачаканы (асабіста для мяне) плян Вільні. Здарылася так, што, студэнтуючы ў Пецярбурзе, марыў памераць крокамі Парыж (як, дарэчы, і цяпер мару) Мне ен здаецца Горадам зь вялікай літары (паводле Картасара), дзе я проста павінен пабываць. Але, дзякуючы «НН», у мяне зьявіўся другі Горад — Вільня Сорамна, што ў свае 27 гадоў не пабываў яшчэ там У мяне ўжо ляжаць каардынаты фірмы «Ваўкалака», якая, думаю, дапаможа ў спатканьні І вось гэты ваш «Vilenski plan», бо любім з жонкай (яшчэ зь Пецярбургу) самі «бадзяцца абы-дзе» Вось толькі ня ведаю, ці хопіць маіх лекарскіх грошай на такую вандроўку хаця б на 2-3 дні. Але, паколькі мы не скідаем з плянаў і Парыж, то, думаю, гэтым летам абавязкова заедзем у Вільню.

І другое Чытаў Севярына Квяткоўскага ў гэтым жа нумары, і здавалася, што ен зрабіў з маіх думак вялікі «плягіят» (хай прабачыць аўтар). Зь вялікім задавальненьнем прыняў ягоныя нататкі. Мне цяпер якраз і не хапае такіх сяброў, каб за куфэркам «Лідзкага» ці «Старажытнага» піва пагаварыць аб «Дасканалым Моманце». Старыя сябры далёка, а новых не прыдбаў пакуль. Дый, здаецца, зусім не прыдбаю. Адразу захацелася падарыць яму адно з маіх практыкаваньняў з алеем і пэндзлем І калі шаноўная Рэдакцыя дашле Квяткоўскаму мой адрас, то я чакаю Севярына ў госьці, тым больш, што неўзабаве павінна адчыніцца мая выстава ў мясцовым краязнаўчым музэі. Вядома, я не Шагал і не Малевіч, але, думаю, кагосьці зацікавяць мае мэтамарфозы.

Спадзяюся, што мае вусны ў хуткім часе дакрануцца да Вострае Брамы, а мае рукі падораць рэдакцыі «НН» адну з маіх карцін, калі для яе знойдзецца месца (хаця б у прыбіральні) і калі яе не забароняць улады ад вывазу зь Беларусі як нацыянальны здабытак.

Няхай жыве «Уліс» Джойса ў беларускім перакладзе!

З павагай да вас Алесь Зьдзешчыц з Картуз-Бярозы.

Вельмі Пав Рэдактар бел. газэты Н Н.

Перажываючы ўжо прыблізна 50 гадоў па-за межамі свае Бацькаўшчыны, нічога дзіўнага, што, калі атрымаю бел. прэсу, то зь вялікай прагнасьцяй чытаю ад першай да апошняй старонкі. Асаблива цікавяць мяне весткі пра Беларусь і бел. жыцьцё. Чытаючы Нашу Ніву, я поўнасьцю згаджаюся з спадарыняй Раісай Жук-Грышкевіч, што ў гэтай газэце вельмі мала пішацца пра Беларусь і ўсё тое, што нам баліць, турбуе і клапоціць. На маю думку, калі там штосьць робіцца добра, то трэба хваліць, а калі нядобра, то абавязкова крытыкаваць, ганіць. Я ўпэўнены, што для жыхароў Літвы ёсьць свабода гаварыць і пісаць. Калі газэта Н.Н будзе друкавацца толькі каб задаволіць патрэбы толькі адукаваных людзей, тады яна ня стане такой папулярнай, як яе папярэдніца ў пачатку стагодзьдзя. Мая другая заўвага, што ў газэце друкуецца шмат перакладаў з другіх моваў і што мова аўтараў есьць перасеяна чужамоўнымі словамі, можа аўтары хочуць паказаць, што яны ёсьць адукаваныя людзі. Вялікая пагроза на чысьціню бел. мовы ёсьць ня толькі са ўсходу, але і з захаду.

Астаюся з пашанай да Вас

М.Баяроўскі з Англіі.

*Паважаныя чытачы з усіх магчымых замежжаў.*

*Некаторыя з вас чакаюць ад «НН» рэгулярнае палітычнае, эканамічнае ды іншае інфармацыі пра Беларусь Але такая інфармацыя не ўваходзіць у задачы Рэдакцыі. На тое ёсьць шмат выданьняў з больш частай пэрыядычнасьцю «Свабода», «ЛіМ», «Голас Радзімы», ня кажучы ўжо пра штодзённыя.*

*Мы ж робім сваю газэту для Беларусі й толькі з таго, чаго сапраўды не стае ў Беларусі, ня так дзеля інфармацыі, як дзеля развагі й пачуцьця. Таму добрая палова нашага выданьня — гэта тэксты, якія йдуць з вольнага сьвету й мусяць патрапіць да беларускага чытача. У астатнім наша задача — творчасьць і ўзгадаваньне новых літаратараў ды аналітыкаў на традыцыйнай глебе несавецкай беларушчыны. Гэта беларуская рэфлексія на сьвет, на сябе й рэфлексія сьвету на беларушчыну Таму мы ня ёсьць інфарматарам для замежжа, як ня есьць і выданьнем беларускай меншасьці ў Літве. 99% нашых чытачоў жывуць у межах цяперашняй РБ*

***Вялікая просьба да ўсіх чытачоў на эміграцыі — паведамце, ці патрэбная вам гэтая газэта і калі не, мы ня будзем уводзіць вас у зман, калі ТАК — мы будзем дасылаць вам «НН» бясплатна й разьлічваць на ваш удзел і дапамогу.***

*Рэдакцыя*

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

*Ірыне Ш зь Менску* У Вас лёгкае пяро І гэта неаспрэчная здольнасьць Але ў гэтым апавяданьні яно занадта лёгкае, бязважкае, амаль не кранаецца паперы І гэта ўжо недахоп

*Зьмітру Б., Аўгену К., Уладзімеру С., Алегу Ч., Сяргею С. ды ўсім, хто з намі — у Гомлі.* Абяцаны гомельскі нумар «НН» падрыхтавалі, але бяз вашых тэкстаў ён атрымаецца недастатковы Таму чакаем у блізкім часе

*Юрасю П* Артыкул падрыхтаваны, але пакуль няма нагоды

# ВЯЛІКДЗЕНЬ!




НАША НІВА №3(21) Беларуская газэта. Заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Рэдактар Сяргей Дубавец. Выдавец Павал Жук. Адрасы для допісаў 2041 Вільня а/с 2082 і 220123, Менск а/с 71 Падпісны індэкс у Літве: 67233, на Беларусі: 63125. Рэдакцыя (Вільня, Жыгімонта 12/2): Алес Мінкін (адк. сакратар) Сяргей Шупа (літ. рэдактар), Сяргей Харэўскі (маст. рэдактар). Менскае бюро (Менск, Іванаўская 56): Алег Дзярновіч (загадчык), Ігар Бабкоў (дыскурс). Рэдакцыйная Рада: Уладзімер Арлоў Сяргей Астраўцоў, Адам Глёбус, Лявон Луцкевіч Генадзь Сагановіч, Алесь Чобат. Афсэтны друк. Фармат А3 Агульны наклад 20 тыс. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку» (220041 Менск, праспэкт Ф.Скарыны, 79) Замова 442